# Ніва

ГОД I № 9 БЕЛАСТОК, 29 КРАСАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.


## ЗЯМЛЯ БЕЗ МЯЖЫ

У блакітных прасторах расплываюцца межы.
Чарады белых голубаў паднялісь у сіняву.
Льецца гоман вясёлы ад бароў Белавежы.
Новы ветры ласкаюць маладую траву.

Расплываюцца межы у блакітных прасторах.
Ой ты роднае поле, дзе твае берагі.
Людзі песні спяваюць аб сталёвых маторах.
Ой ты, доля мужыцкая, — залатыя плугі.

Расплываюцца межы у прасторах блакітных,
Што дзялілі вякамі мужыкоў — беднякоў.
Вышлі раніцай у поле маладыя сейбіты.
Сеюць яснае шчасце нашых юных гадоў.

Расплываюцца межы! Разрастаецца ніва —
Маладая, зялёная, за ўсё даражэй.
Мы працоўныя людзі хочам жыці шчасліва.
Нашы сэрцы злучае Мір-зямля без мяжы.

АНДРЭЙ СОШКА

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# Лічбы пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы

Асноўным залажэннем палітыкі Партыі ў пяцігодцы будзе паслядоўнае спалучэнне — социялістычнай перабудовы вёскі з адначасовым выкарыстаннем усіх магчымасцей дзеля росту вытворчасці ў паасобных сялянскіх гаспадарках пры абмежванні капіталістычных элементаў.

Дзяржаўная дапамога сельскагаспадарчым кааператывам, узмоцненая арганізацыйная і палітычная работа, — павінны загарантаваць такое развіццё сельскагаспадарчых кааператываў, каб у канцы пяцігодкі абняць кааператывамі на 25—30 працэнтаў агульнай плошчы сялянскай зямлі.

У гадах 1956—1960 мы павінны асягнуць рост сельскагаспадарчай вытворчасці на 25 прац. пры росце раслiннай вытворчасці на 22 прац., а гадаўлянай на 29 прац.

Ураджай павінен узрасці гэтак:



| РАСЛІНА | сярэдняя ў гадах 1955 тыс. тон | 1960 тыс. тон |
|---|---|---|
| ЗБОЖЖА СУМЕСНА З КУКУРУЗАЙ (СУХОЕ ЗЕРНЕ): | 11.680 | 14.200 |
| БУЛЬБА: | 29.800 | 39.000 |
| ЦУКРОВЫЯ БУРАКІ: | 6.550 | 9.400 |



Збор асноўных коранеплодаў у пяцігодцы навінен узрасці гэтак.



| РАСЛІНА | ГОДЫ 1955 | 1960 |
|---|---|---|
| | У ЦЭНТНЕРАХ | |
| ЗБОЖЖА СУМЕСНА З КУКУРУЗОЙ | 12,6 | 14,9 |
| КУКУРУЗА (СУХОЕ ЗЕРНЕ) | — | 20,0 |
| БУЛЬБА | 114,0 | 148,0 |
| ЦУКРОВЫЕ БУРАКІ | 180,0 | 230,0 |
| РАСЛІНЫ АЛЕІСТЫЯ | 6,1 | 9,6 |

# Як гаспадараць у Дыдулях

У Дыдулях (Бельскага павета) найперш пазнаёміўся я з Аляксандрам Лушчынскім, яго жонкай Марынай і зяцем — Юркам Голубам. Доўга сядзелі мы разам і вялі гутарку пра рознае. З гэтага „рознага" складаецца жыццё. Пра тое, як у панскай Польшчы хадзілі ў лапцях, як банды Мікалайчыка здзекваліся над беларусамі, як узнік у іх вёсцы пажар у 1950 годзе, як электрыфікавалі і радыёфікавалі іх вёску.

— Калісьці мы і марыць не маглі аб электрычным святле і радыё, — сказала Марына Лушчынская, паказваючы рукою на радыёкропку і электрычную стосвечавую лямпу.

— Цяпер ніхто не п'е горкай кавы, або з сахарынаю; ніхто, ідучы ў горад, не нясе ў руках абутку. Прапаў голад на зямлю, прапала галеча, — гаварыла Марына Лушчынская.

Потым яны з Юркам Голубам сталі расказваць аб сваім сельскагаспадарчым кааператыве, аб яго дасягненнях.

— Мы купілі грузавік, радыёапарат, пабудаваліся, маем нават свой тэлефон, — расказвае Юрка Голуб. — Вось ідзем, пабачыце якія маем прыгожыя грамадскія будынкі, — дадае паглядаючы ў акно.

Сумесна з Лушчынскім і Голубам накіраваліся мы да цэнтра сельскагаспадарчага кааператыва, які знаходзіцца ў канцы вёскі. Гэта сапраўдны цэнтр. Пабудавана там стайню, кароўнік, свінарнік і вялікі свіран.

З аднаго боку гэтых пабудоў знаходзіцца гараж, у якім стаяць грузавік і сельскагаспадарчыя машыны. З другога боку раскінуўся на 4-х гектарах грамадскі сад.

У кароўніку я сустрэўся з Надзяй Голуб і Марысяй Ігнацюк, якія спяшаючыся даілі каровы.

— Ну, даяркі, скажыце, колькі літраў у год надойваеце малака ад адной каровы?

Дзяўчаты не ведалі што адказаць на маё пытанне. Крыху памаўчаўшы, адна з іх сказала:

— Мы не даяркі. Кароў у нас дояць жанчыны па чарзе.

З Юркам Голубам пайшлі мы далей калідорам. Ён гаварыў, што раней даіў кароў Валодзя Томчук, ды адмовіўся ад гэтай работы.

— Абыякава адносяцца тут да жывёлагадоўлі — падумаў я.

Назаўтра я даведаўся, што ўчарашнія „даяркі", забыліся падаіць адну карову. Але гэты выпадак магчыма што выключны. Больш за ўсё здараецца, — як гавораць некаторыя члены кааператыва, — што „даяркі" да канца не дадойваюць кароў. А гэта таму, што яны ўсе абыякава адносяцца да гэтай справы, што няма асабістай адказнасці за ўдой малака. Кожны спяшаецца і ніхто дакладна не доіць.

Потым накіраваліся мы да стайні. Там пазнаёміўся я з Паўлам Томчукам. Выключную зычлівасць і лагоднасць зразу адчуў я, як толькі звярнуўся да яго. Стараўся ён гаварыць са мною на польскай мове — ды гэта, нейк яму не выходзіла. Быў вельмі вясёлы.

— Ён заўсёды такі вясёлы і добры, як падап'е — шапнуў мне на вуха адзін з прысутных у стайні. І дадаў: — Быў у Бельску і там „хваціў".

У стайні ўсе 20 каней прагна елі пахучае сена. Павольна набліжаўся вечар. У гэты час у Васіля Сахарчука збіраліся члены сельскагаспадарчага кааператыва, каб паслухаць радыёперадачу з Мінска аб тым, як жывуць і працуюць нашы браты ў Совецкай Беларусі.

Побач са мною на доўгай вясковай лаве сядзеў старшыня сельскагаспадарчага кааператыва, Сцяпан Грыгорук. Гэты, яшчэ малады чалавек, у самым, як кажуць, творчым узросце, расказваў аб грамадскай гаспадарцы.

— Жывем някепска. Па 5 клг. збожжа і па 2 з палавінай злотых выпала сёлета на працадзень. Каб акрэсліць даходы членаў кааператыва, — трэба дадаць, што сям'я Паўла Томчука атрымала 55 цэнтнераў збожжа і каля трох тысяч злотых. Акрамя таго даходзіць яшчэ сена і салома.

— А як ажыццяўляюць ў вас пастановы V Пленума Цэнтральнага Камітэта ПЗПР? — звярнуўся я да сакратара партыйнай арганізацыі тав. Міхася Якубюка.

Ён перш, чым адказаць, выняў папяросу і закурыў.

— Плануем сёлета засеяць 2 гектары кукурузы і загаспадарыць 10 гектараў балот. Акрамя таго, будзем гадаваць 11 штук цялят, будзем лепш угнойваць зямлю.

На маё пытанне, адносна надою малака ў год ад адной каровы, старшыня і сакратар адказвалі няўпэўнена.

— Менш - больш 2.120 літраў, — кажуць яны. — Некаторыя каровы даюць нават 2.500 літраў

— Я паглядзеў на іх недаверчыва. І тут успомнілася мне, як сакратар і старшыня ў мінулым годзе ашукалі рэдактара „Беластоцкай Газеты" гаворачы, што на іх палях вельмі ўрадзіў „конскі зуб". У сапраўднасці яны яго зусім не сеялі.

Гутарка ў нас не клеілася. Потым хтосьці з прысутных сказаў: — „У нас вельмі кепска прадстаўляецца справа з нормамі працы". І гэтыя словы замкнулі ўсім рот. Больш ніхто нічога не хацеў гаварыць.

Было відаць, што гэта справа для іх вельмі важная, але члены сельскагаспадарчага кааператыва не хацелі ў голас пра яе гаварыць. Пра гэту і пра другія справы гавораць у Дыдулях цішком. Вось таму, я рашыў аб іх напісаць.

Якія-ж гэта справы? А вось яны. Вельмі нізкі ў Дыдулях аўтарытэт працадня. Некаторым членам сельскагаспадарчага кааператыва працадзень вельмі лёгка прыходзіцца, а іншым трэба цяжка працаваць на яго.

Вось, напрыклад, гэты самы Паўла Томчук, які найбольш зарабіў. Яму запісваюць адзін працадзень за тое, што ён зварыць адзін парнік бульбы свінням, а за тое, што разам з Іванам Ваўтанюком корміць свіней — яшчэ даходзіць яму паўтара працадня.

Такім чынам у адзін дзень ён зарабляе два з палавінай працадні. Менш закідаў да яго мелі-б, калі-б ён лепш даглядаў свіней, а перад усім, малых парасят, каб яны не дохлі. А гэтага няма. Парасят нават ніколі не ўводзяць у рэестры і па сённяшні дзень ніхто не ведае дакладна колькі ўжо іх падохла з прычыны кепскага дагляду.

Няма асабістай адказнасці таксама за свіней, як няма яе за дагляд кароў.

І яшчэ адна справа. Няма ў Дыдулях дастатковай пашаны да тых членаў сельскагаспадарчага кааператыва, якія шчыра працуюць, якія не баяцца нават крывавага мазаля. Напрыклад Валодзя Томчук у мінулым сам адзін спраўляўся з працаю каля кароў: карміў, даіў і любіў гэту працу. Але яму вельмі не падабалася, што такія, як Павал Томчук, за адзін напараны кацёл бульбы атрымліваў працадзень.

Ціха гавораць многія члены сельскагаспадарчага кааператыва і аб тым, што старшыня мае 600 адміністрацыйных працадзён, а бухгалтар 300. Паводле іх меркавання — гэта надта многа.

І справа апошняя. Многія члены сельскагаспадарчага кааператыва апрацоўваюць зямлю на боку. Гэта таксама моцна падрывае аўтарытэт працадня.

Каб гэтыя недахопы члены сельскагаспадарчага кааператыва ў Дыдулях зліквідавалі, тады можна было-б спадзявацца поспехаў у яго развіцці.

М. Х.

# Успаміны

На ўскраіне Белавежскай пушчы ціха і ўтульна, разлажылася мястэчка Гайнаўка. Здалёк ўзвышаюцца над ім коміны Лясных прамысловых прадпрыемстваў.

На вуліцах — балота і ручайкі бягучай вады. Адчуваецца вясна. Каля хат, на тратуарах, ў лужынах забаўляюцца дзеці; смехі, бегі — вядома, бестурботныя дзіцячыя гады.

У недалёкай будучыні, гэтыя дзеці, вывучаючы рабочы рух, прачытаюць, можа сціплые, сухія словы: „...у гады санацыйнай дыктатуры пролетарыят Гайнаўкі чынна выступіў супраць дыктатуры Пілсудскага, арганізуючы шэраг эканамічных і палітычных забастовак..."

Гэтулькі скажа гісторыя, і можа новаму пакаленню гэтага хопіць.

На пляцы Лясных прадпрыемстваў, у фабрычных памяшканнях пахне смалой і перацёртым дрэвам. Прыглядаюся да твараў праходзячых работнікаў — маладыя, старэйшыя, жанчыны. Так, гэта яны, або іх бацькі збіраліся тут на гэтых пляцах у час забастовак, тут адбываліся сходы, гучэлі горкія словы, гаворачыя аб іх ўласнай няволі.

Вечарэе. Над пушчаю загараюцца першыя зоры. Лясныя прадпрыемствы шумяць безупынным рытмам працы. Будынак дырэкцыі амаль пусты ў гэты час. У клубе цёпла і ўтульна. Закурваем папяросы, пачынаем гутарку.

Тав. Павал Шыманюк зацягнуўся дымам, задумаўся, гляну ў у цёмную, за вакном даль, і ціха, у задуме, быццам дзесьці далёка бачыў мінулыя, старыя вобразы і іх растлумачваў, а потым пачаў гаварыць: „Мой бацька у 1921 г. пакінуў родную вёску, Семяноўку і пайшоў на працу ў лесапільню ў Гайнаўцы. У хаце было нас пяцёра дзяцей. Бацька зарабляў мала.

Лесапільня разрасталася. Яе пачатковы ўласнік збанкратаваў, а новая кампанія, бачачы велізарныя магчымасці эксплуатацыі Белавежскай пушчы, пачала актыўна разбудоўваць прадпрыемства. Раслі прадпрыемствы, расла і эксплуатацыя. Дробныя капіталістычныя „рыбкі", увіхаючыся каля вялікіх „акулаў" стараліся высмактаць з нас як найбольш, а даць як найменш.



*Уваход у Прадпрыемства лясной прамысловасці ў Гайнаўцы. Адгэтуль заўжды пачыналіся дэманстрацыі і забастоўкі.*

Шыманюк змоўк і дастаў папяроску. Тав. Сяргей Мартысевіч, седзячы, і слухаючы ў задумленні, прарывае наступіўшую цішыню і працягвае далей.

Я пачаў працу ў лесапільні „Пашуцкія Буды". У Гайнаўцы прадбачыліся большыя магчымасці, кінуў там працу і ў 1931 годзе перайшоў у Гайнаўку. Я зарабляў у той час 1 зл. ў дзень. Ці гэта было многа, ці мала, — дык хіба самі ведаеце?! Такіх маладых, як я, працавала са мной 18. Мы ведалі, што дзеецца нам вялікая крыўда. Але што было рабіць?! Ксяндзы і папы гаварылі з казальніц, што трэба ў пакорнасці пераносіць сваё ярмо, што на тым свеце будзем за цярплівасць узнагароджаны. Дырэкцыя навучала нас, што як будзем ветлівымі, дык нам калісьці падбавяць. Мы не ведалі, дзе ёсць праўда і як палепшыць свой быт.

Працаваў тады на пляцы стары работнік тав. Сахарчук. Сахарчук быў членам Комуністычнай Партыі Беларусі. Я даведаўся аб гэтым, вядома, многа пазней. Калі нас маладых ён пазнаў бліжэй, дык парадзіў коратка: „Дзеецца вам вялікая крыўда, сарганізуйце забастоўку, дамагайцеся падбаўкі. Свой быт можаце палепшыць толькі ў барацьбе, бо капіталіст нічога вам за дарма не дасць".

Мы зразумелі гэта добра. Кіраўніком пляца быў тады скончаны лайдак і п'яўка, нейкі Казлоўскі. Мы пайшлі да яго, растлумачылі ў чым справа і дамагаліся падбаўкі на 1 зл 20 грошы. Ён паглядзеў на нас іранічна, засмяяўся, пастукаў у лоб і адказаў: „Не падабаецца? — дык далей за вароты! На ваша месца прыдзе 100 другіх, якія і за 1 зл будуць працаваць".

Мы пайшлі да дырэктара прадпрыемства, пана Яцыніча. Ён з намі не хацеў нават гаварыць.

Уся наша група пастанавіла датуль не сходзіць з пляца, пакуль не дадуць нам падбаўкі. Дзве нядзелі не зыходзілі мы з пляца.

Нас стараліся падкупіць, запалохаць, — ды ўсё нічога не памагала. Тав. Сахарчук і другія комуністы падбадзёрвалі нас, ўсе працоўныя салідарызаваліся з намі. Пасля 2-х тыдняў мы дабіліся свайго: выйгралі нашу першую забастоўку. Нам далі падбаўку і мы пачалі атрымоўваць штодзённа па 1 зл і 20 гр.

Гэта былі вялікія дасягненні, якія паднялі нашу веру ва ўласныя сілы. Узрасла наша свядомасць. Мы адчулі вялікую сімпатыю да тых людзей, якія намі пакіравалі.

Гэта быў пачатак маёй барацьбы ў Гайнаўскай лесапільні. З гэтага часу пачаліся сапраўдныя забастоўкі і зацятыя змаганні з капіталістамі.

Трывае кароткае маўчанне. Я не адважаюся яго сарваць. Перарывае яго Шыманюк:

— Лета 1932 года было гарачае. На Зямлянках, Жабей - Горцы і Губерні, дзе ў смярдзючых норах гняздзіўся пролетарыят, дзе штораз больш умірала дзяцей ад сухотаў — штораз менш было хлеба і штораз болей бяды. Нелегальна дзейнічаючая група КПП і КПЗБ — Кунтышоў, Казак, Васілюк, Раманюк, Скорук, Сахарчук і другія, — гаворыць працяжна Шыманюк, — пачала рабіць сваё. З'явіліся газеткі і афішкі, пачалі ўсё больш гаварыць аб забастоўцы. Мы многа не жадалі, дамагаліся толькі 40 грошай падбаўкі падумайце: 40 грошай падбаўкі!

Пачалася забастоўка, затрымаліся ўсе прадпрыемствы, пакінула працу паўтары тысячы людзей. Гэта былі незабыўныя хвіліны. Быў створан забастовачны камітэт на чале з беларусам Кастусём Васілюком — членам КПЗБ, і палякам Янам Патэрам — членам лявіцы — ППС Камітэт сарганізаваў сход, растлумачыў работнікам мэту і сэнс забастоўкі. Мы вырашылі весці барацьбу да канца.

— А ці памятаеш, — дадае Мартысевіч, як ячэйка КПЗБ выдала тады спецыяльныя лістоўкі і газеткі? Іх друкавалі на шклаграфе ў тав. Хведара Саца пры вул. Гурнай.

— А я, — гаварыў Мартысевіч з агеньчыкамі радасці ў вачах распаўсюджваў гэтыя лістоўкі і наклейваў на платах і прызмах штабялёў.

— Дух быў тады бадзёры, — цягнуў далей Шыманюк. Мы збіраліся групамі, спявалі рэволюцыйныя песні. Комуністы, радавыя ППС-оўцы і прагрэсіўныя, паступовыя дзеячы „Класавай сувязі" праводзілі палітычную працу. Гэта быў пачатак. Буржуазія не хацела так лёгка паддацца. Сцягнула шмат паліцыі, узброенай у ЦКМ-ы, гумовыя палкі, каскі. У самых прадпрыемствах пачалі круціцца правакатары, шпікі, штрэйкбрэхеры.

Ноччу цішком арыштавана ўвесь забастовачны камітэт. Калі рана мы аб гэтым даведаліся, — вырашылі ісці ўсе разам і вызваліць арыштаваных.

Мы ішлі па вуліцы 3-га Мая (сягонняшняя Сталіна), штораз далучаліся да нас новыя групы людзей; натоўп рос, узнімалася нянавісць. Рабочыя вырывалі каменні з бруку, ламалі паркан, дайшлі да турмы. Але тут стаялі цэлыя ватагі паліцыі, узброенай да зубоў. Самая турма была густа абстаўлена ЦКМ-амі. Супраць нас ружжа, штыхі, гумовыя палкі. А мы што? Мелі толькі рабочыя кулакі, каменні ды жэрдкі.

Мы выявілі коратка паліцыі нашы жаданні. Паліцыя загадала няўхільна разыйсціся. Натоўп стаяў. Тады пачалі страляць над нашымі

# ПЕРШАМАЙСКАЕ СВЯТА

## ўчора і сягоння



*Дэманстрацыя рабочых фабрыкі Вечорка ў Беластоку, у 1905 годзе. На здымку: Момант выхаду дэманстрацыі з фабрыкі.*

Традыцыі святкавання Першае мая — дня міжнароднай салідарнасці рабочага класа, з'яўляюцца на Беласточчыне таксама даўнімі і прыгожымі як і ва ўсім свеце. Ужо ў 1892 годзе, у два гады пасля ўстанаўлення 1 Мая днём міжнароднага свята працоўных, беластоцкія рабочыя ўпершыню масава выйшлі на вуліцы, дэманструючы сваю салідарнасць з міжнародным рабочым рухам.



Głosując na listę Nr. 1 lub Nr. 2. głosujesz na ten bat!

*Лістоўка, якая прадстаўляе сітуацыю рабочых падчас панавання дыктатуры Пілсудскага.*

Гэтыя выступленні з'яўляліся аднак, пакуль што, стыхійнымі. Толькі з таго моманту, як у 1900 годзе ў Беластоку быў створан Акруговы камітэт сацыял-дэмакратыі Польскага Каралеўства і Літвы, рэвалюцыйны рух беластоцкага пралетарыяту зрабіўся болей арганізаваным. З таго часу не было амаль такога года, каб у дзень 1-Мая рабочыя ўрачыста не дэманстравалі сваёй салідарнасці з міжнародным рабочым рухам.

У 1904 годзе, ў вялікім маштабе, як на беластоцкія ўмовы, адбылася дэманстрацыя рабочых. На вуліцы Беластока вышла тады звыш 10.000 рабочых; палякі, беларусы, яўрэі, немцы, плячо ў плячо ішлі згуртаванымі радамі дэманструючы сваё супраціўленне і волю барацьбы працоўных за мір, нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

З самага пачатку рабочага руху на Беласточчыне, лінія сацыяльнага падзелу праходзіла не па лініі нацыянальнага падзелу, але па лініі, якая раздзяляла эксплуататараў ад прыгнечаных. У такім featuresнародным зборышчы, якім з'яўляўся Беласток, лінія гэта праходзіла выключна. З аднаго боку барыкады знаходзіліся працоўныя масы — палякі, беларусы, рускія, яўрэі, немцы, а з другога боку, — эксплуатуючыя іх капіталісты тых-жа самых нацый.

У наступных гадах першамайскія дэманстрацыі ахапілі амаль усю Беласточчыну. Ужо ў 1905 годзе, у дзень 1-Мая дэманстравалі рабочыя: Ломжы, Кнышына, Крынак, Харошчы і іншых мясцовасцей. Пазней, у сувязі з аслабленнем рэвалюцыйнага ўздыму, першамайскія дэманстрацыі былі менш масавыя з увагі на страшэнны тэрор гнёючага царызма.

У міжваенных гадах, у сумныя дні фашысцка - санацыйнага тэрору, рабочыя штогод урачыста святкавалі сваё свята, рашуча супраціўляючыся такім чынам, прыгнёту і эксплуатацыі. Неаднаразова вуліцы Беластока, Гайнаўкі, Саколкі, Супраслі ці Крынак сцякалі крывёю рабочых, якія змагаліся за лепшую будучыню. Пашыраўся фронт дэманстрантаў. Да рабочага класа ўсё больш гарнулася працоўнае сялянства. Сяляне ўсё часцей удзельнічалі ў барацьбе супраць прыгнёту. Гады 1924, 1928, 1930, як і пазнейшыя, былі гадамі далейшых уплываў Комуністычнай партыі Польшчы ў гарадах і вёсках. Дырэктывы КПП аўтаматычна ажыццяўляла яе секцыя — Комуністычная партыя Заходняй Беларусі.




*На здымку: Першамайская дэманстрацыя ў 1936 годзе у Гарадку. Беластоцкага павета.*

У часе першамайскіх дэманстрацый амаль заўсёды даходзіла да сутычак з паліцыяй, якая бараніла капіталістычны лад. Не было амаль года, каб на вуліцах гарадоў, пасёлкаў, а нават вёсак не пралілася кроў працоўных. У 1924 годзе, у часе сутычак з паліцыяй, паранена 50 чалавек. Сярод іх былі жанчыны і дзеці.

У 1928 годзе паліцыя адпомсціла за паражэнне ў выбарах і крывава заатакавала дэманстрантаў у Беластоку і Гайнаўцы. Першамайскія дэманстрацыі набралі найбольшай сілы ў трыццатых, а асабліва, ў 1936 і 1937 гадах, калі на пачатку адзіны фронт, а пасля народны фронт быў на Беласточчыне рэчаіснасцю. У гэтых гадах усе прагрэсіўныя элементы згуртаваліся вакол КПП.

З-пад уплыву, псеўданародных правадыроў СЛ (Стронніцтва Людовэ) і ППС, адыходзіла ўсё больш працоўных мас.

У першамайскай дэманстрацыі, у 1936 годзе вуліцамі Беластока ішлі плячо ў плячо комуністы, члены ППС, Бунду, і ўпершыню ў гісторыі, сяляне — члены СЛ са сваімі зялёнымі сцягамі. Нягледзячы на забарону з боку беластоцкіх правадыроў СЛ, сяляне з Жэпнік (Беластоцкага павета) і іншых вёсак ішлі ў радах дэманстрантаў побач з рабочымі.



*На здымку: Рабочыя хімічнага завода ў Гайнаўцы перад Першамайскай дэманстрацыяй у 1924 годзе.*

Паказалі яны сваю салідарнасць з рэвалюцыйным рабочым рухам. Першамайскіх дэманстрацый на вёсках найбольш было ў паветах: Бельскім, Гайнаўскім і Сакольскім. Асабліва актыўна ўдзельнічалі ў дэманстрацыях сяляне з Райска.

Ахвярна змагаліся працоўныя дзеля таго, каб сёння мог над нашымі вёскамі і гарадамі ганарліва ўзвышацца чырвоны сцяг рэвалюцыі, — чырвоны, як кроў пралітая рабочымі і сялянамі ў барацьбе з класавымі прыгнятальнікамі. І за гэта, загінуўшых у барацьбе змагароў рэвалюцыі, працоўны люд будзе вечна насіць у сваіх сэрцах, акружаючы іх імёны вечнай хвалай і пашанай.

Г. МАТЭЙЧЫК




(8)

Мы бярэм адразу па некалькі казачных домікаў за іх каласяныя стрэхі і абарочваем на кучу. Тады з асалодай лажымся на цёплых, яшчэ не астыўшых ад дзённага сонца, аўсяных снапах.

Бручку на гэты раз мы ядзім больш культурна. Ачысціўшы сваю, Мікола разрэзвае яе на скрылікі, як галандскі сыр, і надзяляе нас па чарзе. Мы хрумстаем ляніва, нават з асалодай. Ды асалоды гэтай няшмат: поўнае не напоўніш, а даўні голад не ўдасца за раз супакоіць. Я пaварочваюся на спіну і пачынаю толькі слухаць і глядзець.

...У маленстве, калі ты вяртаўся з коўзанкі мокры, і маці — па-свойму вельмі правільна, а па-твойму зусім незаслужана — сустракала цябе пякучымі махрамі хвартуха, ты найчасцей забіраўся на печ. Гэта была нібы крэпасць, дзе ты ў далейшым мог лічыць сябе амаль зусім недасяжным. Гэта было найцяплейшае месца ў хаце, асабліва для тых, у каго ў такі час быў надзейны саюзнік — бабуля. У мяне яе не было, і я звычайна перажываў сваю крыўду адзін. Ляжаў, глядзеў на столь, спачатку хмыкаў, а потым пачынаў разглядаць, нібы нейкі цікавы малюнак, сукі і разводы слаёў на дошках. І крыўда праходзіла, асабліва тады, калі маці — цяпер ужо і па-твойму правільна — успамінала, што ты не еў амаль ад рання...

Маленства наша мінула даўно, назаўсёды. Ды засталіся не толькі ўспаміны аб ім. Я не забыўся любіць хараство, як калісьці любіў, упершыню пазнаючы яго і ў дробязях, праз пажаўцелы ліст, што ападаў з галля на галаву, і ў неабсяжнай, загадкавай велічы неба, якім захапляўся ля вогнішча першых начлегаў на пашы.

Я ляжу на аўсяных снапах, за многія сотні кіламетраў ад хаты, з якое пайшоў у жыццё. Я даўно не дзіця, і крыўда мая — не дзіцячая. Ды на зорную столь нада мной я гляджу з нейкай дзіўнадзіцячай усмешкай. На другой злева зорцы сузор'я Вялікай Мядзведзіцы — мне здаецца — прысеў камар. Бедная зорачка міргае, міргае і ніяк не можа яго сагнаць... А можа гэта не камар? Можа яна падміргвае мне і сябрам, нібы хоча сказаць, што мы напэўна выплывем з шалёнага віру на родны прастор, туды, дзе нас любяць, як родных, дзе мы патрэбны будзем, як свае?..

Не міргай, зорачка! Прайшло не толькі маленства, — юнацтва мінула таксама. Яшчэ тры месяцы таму назад мы думалі пра родны край, як юнакі, — там спадзяваліся знайсці супакой і матчыну ласку, думалі там адпачыць перад новай сапраўднай і радаснай працай. Ды нашы мары абарваліся. Вораг - фашыст, якога мы пазналі ў верасні трыццаць дзевятага года, цяпер захацеў адабраць у нас волю і шчасце ўжо назаўсёды, забраўшы радзіму, якую мы любім даўно, хоць ні разу яшчэ не былі ў яе межах. Мільёны нашых сяброў на прасторах совецкай радзімы — і аднагодкі нашы, і малодшыя за нас — усе ў адзін незабыўны чэрвеньскі дзень перасталі быць юнакамі. Прышла пара суровай мужнасці. Не міргай, зорачка, бо мы ідзем у родны край не шукаць адпачынку, а помсціць!..

Я падняўся і сеў.

Ды што гэта? Песня?

Нямецкая песня ўстае за гарой, куды пайшлі адгэтуль шэрагі домікаў — бабак. Песню спяваюць дзяўчаты, якім памагае гармонік.

— Весела ім, — ціха, праз зубы гаворыць Мікола.

Ён таксама падняўся, сядзіць на снапах. І Калодка спыніўся жаваць. Мы не гаворым больш, думаем кожны сваё.

Гэтую песню мы чулі не раз. Вельмі часта ў ёй паўтараецца слова Эрыка — дзявочае імя. Больш у песні я разумею няшмат. Ды мне хапае таго, што ўжо ад музыкі толькі я ўспамінаю нашу Эрыку...

...Шкляны завод. Вялікі комін, чорны подых якога здаваўся мне подыхам нашых збалелых грудзей. Вялізныя, чорныя горбы вугалля. Ад ранку да цямна мы адчуваем яго скрыгатанне пад нашымі лапатамі, чуем грукат яго аб жалеза пустых ваганетак.

Працяг будзе







*Людзям усім на цэлым свеце*
*Майскае сонца мірам свеціць.*

# ХОЦЬ АДЗІН...

У адной установе памёр бухгалтар. Дырэктар установы падаў у друк аб'яву, што патрабуецца бухгалтара. І вось пачалі прыходзіць людзі з просьбай прыняць іх на гэтую пасаду. Дырэктар пачаў іх экзаменаваць. Спытаў першага:

— Скажыце, калі ласка, колькі будзе два разы тры?

— Шэсць, таварыш дырэктар.

— Ведаеце, што, — кажа дырэктар, — вас на працу прыняць не магу таму, што вы вельмі нервовыя.

Гэтаму чалавеку нічога іншага не заставалася рабіць, як сказаць:

— Выбачайце, таварыш дырэктар. Да пабачэння!

Праз хвіліну ўвайшоў другі чалавек. Дырэктар пытае яго:

— Скажыце, калі ласка, колькі будзе два разы чатыры?

— Восем — адказаў той.

— І гэтаму даў дырэктар падобны адказ.

Але вось увайшоў трэці. Быў гэта энергічны чалавек аб нейкім дзіўным позірку. З першага погляду ён спадабаўся дырэктару.

— Вы грамадзянін, да мяне? Наконт чаго?

— Чуў я, што вам патрэбен бухгалтар.

— А ці працавалі вы некалі бухгалтарам?

— Дык чаму не, працаваў, таварыш дырэктар.

— Тады скажыце мне: тры разы сем колькі будзе?

— Ну, а колькі вам трэба?

— Хоць адзін, але добры, — сказаў са здавальненнем дырэктар.

— Заўтра прыходзьце працаваць!

КАСТУСЬ Б.

## Вастрэм брытвы

Ад нейкага часу Цырульніцкі пункт № 1 Многабранжавага кааператыва ў Бельску Падляскім не атрымлівае асялкоў да вастрэння брытваў.



*— Вастрэма, брацці, хутчэй. Неўзабаве прыедзе загадчык Ваяводскага бранжовага кааператыва працы тав. Пугаўко.*

*...Тады мы яго пабрыем...*

## Юныя экскурсанты

Сямігадовы Саша і на два гады старэйшая ад яго сястра Валя паехалі разам з усёй школай на экскурсію.

Пасля таго, як вярнуліся дамоў, Саша расказвае аб усім бачаным у час экскурсіі свайму бацьку:

— Тата, мы былі у ЗОО. Там быў такі вялізны сад, а ў ім пасвіліся два аслы: адзін гэтакі маленькі, ну... як я, а другі такі вялікі, як ты, тата...

— Што ты гаворыш, — перабіла яго сястра, — такога-ж асла, як тата і ва ўсім свеце няма.

Прыслаў к-к

## Кукуруза



Мяне сее цэлы край,
Уся старонка паважае.
Паздраўляю з 1 Маем!

## У Крыніцы

Доктар: — Вельмі добра, што вы прыехалі на лячэнне. А на што паненачка скардзіцца?

Курортніца: — На адсутнасць кавалера.

## Бязвінныя думкі

Двое маладых людзей пайшло за горад, у лес, і ўлёгшыся на зялёнай траве пад сасной, пачалі непарушна глядзець на блакіт неба, аб нечым марачы.

Ён: Эх! Як гэта добра паляжаць на зялёнай траве, падыхаць араматным пахам сосен, паглядзець на бяздонны блакіт неба... памарыць...

Яна: Цікава, аб чым ты цяпер думаеш?...

Ён: Аб чым? Аб тым самым, што і ты.

Яна (схапіўшыся з месца): Дзёрзкі! Калі толькі асмелішся зараз-жа буду крычаць!..

Прыслаў к-к

## На раздарожжы

— Стой слімак!
Куды прэсся?...
з сяла ўцякаеш?
— У горад іду.
— Без хаткі?
— Глядзі ні я адзін...
і суседзі пруць
У горадзе блокі ставяць.
Хатку новую дадуць.
— А ты?
— У мяне шмат зямлі.
За гэта
з горада
паперлі.
Блок аставіў,
а сялянскай хаты
ўжо не маю.
— У ПГР напраўляю!

УЛАДЗІМІР САСІМ

## БЕЛАРУСЬ — РАДЗІМА

Словы А. Русака — Музыка В. Алоўнікава




*Беларусь — Радзіма, вольная старонка,*
*Вольным тваім далям краю не відаць.*
*Пра тваіх герояў — партызанаў смелых,*
*Пушчы і дубровы славаю шумяць.*

*Тут збіраў на бітву дзед Талаш унукаў,*
*На разгром фашыстаў вёў атрад Мінай*
*І пускаў Заслонаў пад адкос саставы —*
*Вызвалялі хлопцы беларускі край.*

*Ехалі салдаты; ехалі героі*
*Грознымі палкамі шляхам на Берлін,*
*Выганялі — гналі ворагаў паганых*
*З нашай Беларусі — з роднае зямлі.*

*Сёння з песняй звонкай мы ідзем на працу,*
*Па краіне вольнай водзім паязды,*
*І будуем мы заводы і палацы,*
*Каля хатаў новых садзім мы сады.*

*Беларусь — Радзіма, вольная старонка,*
*Пра цябе дубровы славаю шумяць,*
*І тваёй вялікай, і тваёй магутнай*
*Багатырскай сіле краю не відаць.*

## АДГАДАНКА




Трэба адгадаць імёны і імёны па бацьку аўтараў гэтых твораў. Першыя літары імён дадуць развязку.

Развязкі дасылайце ў тэрміне да 15 мая г. г. на адрас: Рэдакцыя „Ніва", Беласток, вул. Кілінскага 7.

Сярод чытачоў, якія ў тэрміне прышлюць правільныя развязкі, разыграюцца ў латарэю каштоўныя кніжныя ўзнагароды.

---

Спартсмены бываюць розныя.

Адныя бегаюць, пакуль не набегаюцца, другія скачуць, пакуль іх хто не пераскача, Ніна Думбадзэ кідае цяжкія жалезныя талеркі, (і з фаянсавым сервізам да яе не падыходзь), а Ракочы на пераkладзіне такія нумары адколвае, што ЗУС баіцца яе застрахаваць.

Навакол усіх спартсменаў круцяцца „балельшчыкі"; гэта яны крычаць ды свішчуць на стадыёнах, напамяць ведаюць усе рэкорды і ўжо акрэслілі, хто першым прыедзе ў гэтым годзе да фінішу ў велагонцы Варшава — Берлін — Прага.

Я жыву ў згодзе з часам і таксама люблю спорт. Лічу сябе спартсменам, толькі займаюся спортам сядзячым, інакш кажучы, спортам без руху. Па сакрэту гаворачы, я стала ўдзельнічаю ў спартыўных гульнях „Тота".

## СЛЯПОЕ ШЧАСЦЕ

Ды памяркуйце самі, дарагія грамадзяне, людзі выгрываюць па сто тысяч злотых. Нават за адну памылку плацяць па 39 тысяч злотых. Па-мойму „Тота" з'яўляецца геніяльнай установай, дзе плацяць за памылкі і да гэтага так дорага.

Чаго там утойваць; у „Тота" гуляе ўся Гайнаўка, палавіна беластачан і амаль уся краіна.

Ну... хіба самі разумееце, як гэта прыемна выйграць. Сядзіць сабе так чалавек у хаце, а тут прыходзіць пісьманосец і прыносіць паведамленне з ПКО, у якім вас вельмі просяць прыйсці і атрымаць сто тысяч... злотых.

Уяўляеце сабе, што тады робіцца ў хаце? Садом і Гамора! Жонка пачынае вас зноў любіць, так як 10 год таму назад, дзеці глядзяць на вас, так, як на рымскага папу, вы грудзі выстаўляеце каблуком ды напяваеце:

„Тота", як добра мне, што ты такое,
Дзякую „Тота", што ты ўмееш так плаціць".

Нядаўна я выслаў свае звычайныя дзесяць купонаў. Сяджу, неяк, пасля абеда ды чытаю „Спартоўца" і... трымайце мяне людзі добрыя, трымайце, бо схаплюся, — 713.473 — гэта-ж мой нумар.

Чакаю я пісьманосца. На другі дзень ідзе ён ветлівы і любімы, заходзіць да мяне, трымае канверт ПКО ды пытае: Грамадзянін Казалупенкаў, тут жыве?

— Уласна кажучы... гэта я, — адказваю, — а маё імя Кірыл, вялікамучанік, вельмі-ж ужо напакутаваўся, чакаючы вас..

А пісьманосец кажа:

— У мяне Аляксандр напісана, а не якісьці Кірыл.

— Аляксандр — гэта па-суседску, другія дзверы, — адказваю і заходжу разам з пісьманосцам.

Алесь Казалупенкаў, мой сусед, як звычайна быў „пад мухай", але падпісацца яшчэ здолеў. Раздзёр ён канверт, а там паведамленне аб уплаце на яго імя 28.950 зл за купон 13.478 (аказалася, што ў газеце была памылка друку).

Алесь пачухаў патыліцу ды кажа: „Пабіце мяне пірагамі, не прыпамінаю, што я там па-п'янаму, панапісваў, а вось цвярозыя толькі адну памылку знайшлі..."

Шчасце — яно-ж сляпое.

*Дзядзька Лявонь*

## Прыказкі і прымаўкі

**Бацьку любі, старшых паважай, здароўе беражы, а кааператыўнае дабро сцеражы.**

**У гультая і страха цячэ, і печ не пячэ.**

**Не кожны дзень — працадзень.**

**Перш правер, а потым вер.**